© ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
ISSN 1819–3625 №16-17(1-2), 2011

Ірына Міхеева

# Палітычныя і сацыякультурныя асновы ідэалагемы «Чацвёртая Рэч Паспалітая»

Сутнасныя сацыякультурныя і палітычныя метамарфозы апошніх дзесяцігоддзяў у дзяржавах усходнееўрапейскага рэгіёну выяўляюцца ўсё больш неадназначнымі і супярэчлівымі. Далучэнне краінаў былога сацыялістычнага лагеру да Еўрапейскага саюзу аказалася працэсам з не такімі простымі наступствамі, як чакалася. Абвастрыўся шэраг сацыяльных праблемаў, выявіліся слабыя месцы ў эканоміцы, павысілася напружанне ў палітычнай сферы (Глинкина, 2002; Неменский, 2010; Kaczmarek, 2001; Członkowstwo Polski…, 2003; Domagała, 2008). Усё гэта патрабуе паглыбленай рэфлексіі над палітычнаю сітуацыяй у «маладых» дэмакратыях. Прычым рэфлексіі менавіта рацыянальнай і крытычнай, здольнай не толькі неангажавана выявіць сапраўдную сутнасць сучасных працэсаў, але і максімальна карэктна змадэляваць далейшыя перспектывы сацыяльнай дынамікі і прапанаваць адэкватныя шляхі палітычнага развіцця той або іншай краіны.

Пасля сістэмных сацыяльна-палітычных трансфармацыяў 1989 года Польшча таксама ступіла на шлях дэмакратыі ды свабоднай рынкавай эканомікі. Краіна выказала жаданне далучыцца да Еўрапейскай супольнасці (пазней – Еўрапейскага саюзу), Рады Еўропы і Арганізацыі Паўночнаатлантычнай дамовы (АПАД, NATO), пацвердзіўшы тым самым сваё гістарычнае ўкараненне ў заходняй цывілізацыі, прыхільнасць да яе каштоўнасцяў захавання правоў чалавека, дэмакратыі, свабоды, вяршэнства закону, вольнага рынку. Нягледзячы на пэўныя памылкі, дапушчаныя посткамуністычнай уладаю пасля 1989 года, сам стратэгічны кірунак развіцця краіны сур'ёзна не аспрэчваўся. Менавіта ў ім бачылася безальтэрнатыўная магчымасць хуткай мадэрнізацыі Польшчы, выхаду яе з пэўнай цывілізацыйнай, ментальнай і эканамічнай адсталасці. Гэты гістарычны шанец асэнсоўваўся ледзь не як першы за некалькі апошніх стагоддзяў.

Сяброўства ў Еўрапейскім саюзе Польшча разглядала спачатку ў якасці беспрэцэдэнтнай гістарычнай магчымасці, бо саюз аб'ядноўваў у сабе палітычна стабільныя краіны, якія належалі да найбольш развітых у эканамічным, тэхналагічным, экалагічным і сацыяльным сэнсе (Lipiński i Słowiński, 2003; Orłowski, 2003). Уступленне Польшчы ў ЕС упершыню назвалі ў якасці мэты ў Еўрапейскім пагадненні (Пагадненні аб асацыяцыі), падпісаным у снежні 1991 года (Polska a Unia Europejska, 2003). Цягам дзесяці гадоў – з моманту падпісання ў верасні 1989 года пагаднення аб гандлёва-эканамічнай супрацы з тагачаснай ЕЭС (Еўрапейскай эканамічнаю супольнасцю – эканамічным папярэднікам Еўрасаюзу) – Польшча актыўна рыхтавалася далучыцца да еўрапейскай сям'і. У красавіку 1994 года краіна падала заяўку на ўступленне ў Еўрасаюз, а ў сакавіку 1998 года ў Бруселі пачаліся адпаведныя перамовы (Raport…, 2002; Polska w Unii…, 2003).

Еўрапейская інтэграцыя сталася адною з найбольш важных перадумоваў для ўстойлівага эканамічнага росту і павышэння палітычнай значнасці Польшчы на міжнароднай арэне. Краіна хутка адчула асноўныя перавагі сяброўства ў Еўрасаюзе: умацаванне нацыянальнай бяспекі, павышэнне прававога ўзроўню свайго заканадаўства, паўнапраўны ўдзел у супольным прыняцці рашэнняў наконт агульнаеўрапейскіх праблемаў (у рамках краінавага ўдзелу ў працы інстытутаў ЕС), на што ўказвае шэраг даследнікаў (гл. Analiza zmian…, 2003; Bilans korzyści…, 2003; Członkowstwo Polski…, 2003; Kawecka, 2004).

Такая ў цэлым перспектыўная сітуацыя праз некаторы час, аднак, пачала мяняцца. Эканамічны застой канца 1990-х – пачатку 2000-х гадоў, калі тэмпы росту знізіліся з 6 % у 1997-м амаль да 0 % у 2000 годзе, а колькасць беспрацоўных за гэты ж перыяд вырасла больш як на мільён чалавек (GUS, 2012), у сукупнасці са шматлікімі скандаламі ў посткамуністычным урадзе левых непазбежна прывялі да росту радыкальных настрояў у грамадстве. Як звычайна ў такіх сітуацыях сацыяльна-палітычнай нестабільнасці, неадкладна пачалі агучвацца вельмі запатрабаваныя і эфектыўныя для інтарэсаў пэўных палітычных гульцоў папулісцкія і нацыяналістычныя лозунгі ды праграмы. Прасоўванне такіх «хуткіх рэцэптаў» сацыяльнага дабрабыту аблягчалася ў Польшчы па-ранейшаму недастатковаю развітасцю грамадзянскіх структураў і, не ў апошнюю чаргу, фактам пэўнага ўплыву Касцёлу на сістэму адукацыі ды сродкі масавай інфармацыі. У такіх умовах грамадзянскай супольнасці было складана канчаткова аформіцца. Гэтак, колькасць людзей, якія заявілі, што ўдзельнічалі ў працы любой з арганізацыяў грамадзянскай супольнасці, не перавышала 5,5 % (Fundacja CBOS, 2006:11).

У гэтым кантэксце адбылася спецыфічная трансфармацыя палітычнага поля краіны – посткамуністычныя (сацыял-дэмакратычныя)[1] і постсалідарнасныя (умераныя антыкамуністычныя)[2] сілы саступілі месца гульцам постантыкамуністычнага кірунку[3] (Жуковский, 2011). З аднаго боку, ключавыя фігуры новага ла-

геру – выхадцы і носьбіты «ідэалогіі “Салідарнасці”». Але адначасова яны катэгарычна не дапускалі нават тэарэтычнай магчымасці паўнавартаснага дыялогу і прадуктыўнага кампрамісу з польскімі левымі для ўліку і адаптацыі іх досведу посткамуністычнага развіцця краіны (Неменский, 2010). У выніку паўстала новая, трэцяя ўнутрыпалітычная сіла са сваёй арыгінальнай і вельмі неадназначнаю для еўрапейскай традыцыі *сацыял-кансерватыўнай ідэалогіяй*.[4] Галоўным тэзісам і галоўнаю задачаю гэтага кірунку была абвешчаная перспектыва пачатку новай эпохі польскай дзяржаўнасці – стварэнне IV Рэчы Паспалітай. Вяшчальнікам і палітычным лідарам у дасягненні гэтай перспектывы сталася партыя «Права і Справядлівасць»[5] (гл.: Prawo i Sprawiedliwość…).

Ідэалагема IV Рэчы Паспалітай, або Чацвёртай рэспублікі, утрымлівала сярод іншых наступныя істотныя кампаненты:[6]

- ідэю *сацыяльнай салідарнасці як салідарнасці нацыянальна-каталіцкай*, або ідэю замены «ліберальнага эксперыменту», які паспяхова праводзілі посткамуністычныя ўрады (Аляксандар Квасьнеўскі, Вальдэмар Паўляк, Лешак Мілер[7] ды інш.), лозунгам «*Польская*

1 Посткамуністычныя партыі – *«Сацыял-дэмакратыя ПР», Дэмакратычная партыя, Польская народная партыя, Саюз дэмакратычных левых сілаў* ды іншыя – захоўваюць кадравую і праграмна-ідэалагічную пераемнасць з легальнымі палітычнымі партыямі Польскай Народнай Рэспублікі.

2 Антыкамуністычныя партыі – *Пагадненне «Цэнтр», Дэмакратычны саюз, Саюз рэальнай палітыкі, Канфедэрацыя незалежнай Польшчы* – грунтуюцца на ідэалогіі руху «Салідарнасць».

3 Да іх адносяцца так званыя новыя палітычныя партыі, якія ўтварыліся ў выніку актыўных працэсаў зліцця і паглынання на партыйнай сцэне ды ўзнікнення новых палітычных ідэалагічных супярэчнасцяў, якія выявіліся ў працэсе трансфармацыі краіны. У першую чаргу гэта *«Права і Справядлівасць», «Самаабарона», Ліга польскіх сем'яў.*

4 Сацыяльны кансерватызм выступае, як правіла, маральна матываванаю палітычнаю ідэалогіяй, накіраванаю на захаванне «традыцыйных каштоўнасцяў». Сацыяльны кансерватызм часта праяўляе аўтарытарныя тэндэнцыі ды звычайна спалучаецца з ідэяй, што нацыянальныя ўрады або дзяржавы павінны выконваць першарадную ролю ў сацыяльным і маральным жыцці сваіх грамадзянаў (гл. Zafirovski, 2008: 27; Stenner, 2005: 86).

5 «Права і Справядлівасць» (Prawo i Sprawiedliwość, PiS) – польская кансерватыўная палітычная партыя, заснаваная братамі Лехам і Яраславам Качыньскімі ды зарэгістраваная 13 чэрвеня 2001 года. Заяўленая ідэалогія партыі ўяўляе з сябе спалучэнне кансерватыўных, хрысціянска-дэмакратычных і рэспубліканскіх каштоўнасцяў. Належыць да групы Еўрапейскіх кансерватараў і рэфарматараў.

6 Кампаненты вылучаныя на аснове партыйных дакументаў «Права і Справядлівасці», у тым ліку: Polska katolicka w chrześcijańskiej Europie (2005), Projekt nowej Konstytucji Rzeczypospolitej Polskiej (2010), Aktywność kobiet w życiu publicznym czyli «Bez kobiet ani rusz» (2011), Prawo i Sprawiedliwość. Szansa dla młodych (2011) ды інш. (гл. Prawo i Sprawiedliwość…).

*салідарнасць*» (браты Лех і Яраслаў Качыньскія);

- заклік да маральнага абнаўлення грамадскага жыцця, або *прэзумпцыю маральнай рэвалюцыі*;
- *асноватворнае значэнне нацыянальных традыцыяў у дзяржаўным і грамадскім будаўніцтве*; якаснае рэфармаванне цэлага шэрагу законаў ды інстытутаў з цвёрдых антыкамуністычных пазіцыяў, у тым ліку выяўленне агентаў камуністычных спецслужбаў;
- арганізацыю і рэалізацыю спецыяльнай апекі ў дачыненні да *сям'і як асноўнага інстытута грамадства*;
- вяршэнства польскага заканадаўства над міжнародным ды інш.

Такім чынам, партыя «Права і Справядлівасць» змагла злучыць лозунгі сацыяльнай дзяржавы з нацыянальна-патрыятычнымі ідэямі, гэта значыць зрабіць тое, што для шматнацыянальнай і талерантнай Еўропы магло падацца, па меншай меры, нетрадыцыйным. Ранейшую ідэю інтэграцыі з Захадам у Польшчы замянілі арыентацыяй на ўласныя нацыянальныя каштоўнасці і гістарычныя карані. У выніку галоўнае палітычнае супрацьстаянне ў краіне пачало праяўляцца па лініі *лібералізм* супраць *сацыял-кансерватызму* з відавочным дамінаваннем апошняга (Неменский, 2010).[8] Таму двайная перамога восенню 2005 года – на прэзідэнцкіх і парламенцкіх выбарах – палітычных сілаў, якія па-свойму разумелі прынцыпы дэмакратыі ды былі, відавочна, пераважна антыеўрапейскія (як аказалася пасля – у значнай ступені праамерыканскія), перадвызначыла ўзнікненне ў Польшчы цалкам новай сацыяльнай і палітычнай сітуацыі. Новая ўлада, адмовіўшыся, па сутнасці, ад базавых каштоўнасцяў Заходняй Еўропы, пачала клапат-

[7] Аляксандар Квасьнеўскі – прэзідэнт Польскай Рэспублікі ў 1995–2005 гадах (пераабраны ў 2000 годзе на пяцігадовы тэрмін). З 1990 да 1995 года быў лідарам Сацыял-дэмакратычнай партыі Польшчы (Socjaldemokracja Rzeczypospolitej Polskiej), спадчынніцы Польскай аб'яднанай рабочай партыі (ПАРП), а пазней узначальваў Дэмакратычны левы альянс (Sojusz Lewicy Demokratycznej). Вальдэмар Паўляк — былы прэм'ер-міністр Польшчы (у 1992, 1993–1995 гадах). Пасля парламенцкіх выбараў у 2007 годзе ўвайшоў у кааліцыю з «Грамадзянскай платформай» і зрабіўся міністрам эканомікі ды віцэ-прэм'ерам Польшчы ва ўрадзе Дональда Туска. У кастрычніку 2011 года Польская народная партыя (PSL), якую ён узначальвае, заняла на парламенцкіх выбарах чацвёртае месца. Лешак Мілер — прэм'ер-міністр Польшчы ў 2001–2004 гадах. На пачатку 1990-х зрабіўся адным з кіраўнікоў партыі СДРП («Сацыял-дэмакратыя Рэспублікі Польшча»), якая ўваходзіла ў кааліцыю СДЛС (Саюз дэмакратычных левых сілаў). У 2004 годзе сышоў з пасады старшыні СДЛС і неўзабаве пакінуў яе з прычыны нязгоды з недастаткова «леваю» палітыкаю партыі. Цяпер узначальвае створаную ім жа партыю «Польская левіца».

[8] Зрэшты, цягам апошніх двух гадоў можна назіраць адваротную тэндэнцыю. Сімпатыі польскага грамадства ўсё больш зрушваюцца ад лакальна-нацыянальных каштоўнасцяў да агульнаеўрапейскіх. Гэта выяўляецца, у тым ліку, у добрых палітычных пазіцыях кіроўнай сёння партыі «Грамадзянская платформа». Але канфлікт паміж кансерватыўна-ліберальнаю «Грамадзянскаю платформаю» (PO) і сацыял-кансерватыўнаю партыяй «Права і Справядлівасць» (PiS) па-ранейшаму застаецца асноўнаю крыніцаю сацыяльнай, палітычнай і светапогляднай напружанасці ў сучасным польскім грамадстве.

ліва ачышчаць «ад пылу забыцця» спадчыну нацыяналістычнага ўзору (Marciniak, 2006). Невыпадкова галоўным лозунгам кіроўнай кааліцыі ды вядучай партыі «Права і Справядлівасць» стаўся заклік да маральнай рэвалюцыі.

Як вядома, у развітых дэмакратычных краінах Захаду традыцыйна – з антычных часоў і асабліва пасля сумнага досведу французскай рэвалюцыі – высока цэняцца прынцыпы памяркоўнасці і здольнасці да кампрамісаў. Праз сістэму выбараў заходняе грамадства рэгулярна адхіляе крайнія пазіцыі, усведамляючы, што, нягледзячы на прывабныя лозунгі, менавіта крайнія погляды, а таксама лідары, якія іх выражаюць, валодаюць, як правіла, дэструктыўным патэнцыялам і, у канчатковым выніку, замахваючыся на сацыяльны мір, прыводзяць да парушэння правоў і свабодаў чалавека.

На думку шматлікіх аналітыкаў, такі спосаб мыслення не ўласцівы польскім палітыкам, якія былі пры ўладзе ў 2005–2010 гадах. Яны зусім не хавалі сваіх непрыязных адносінаў да шэрагу дэмакратычных стандартаў, якія склаліся ў сучасным свеце. Гэтак, напрыклад, прэзідэнт партыі «Права і Справядлівасць» і тагачасны прэм'ер-міністр Яраслаў Качыньскі ў сваім інтэрв'ю газеце «Dziennik» ад 21 красавіка 2006 года нават ахарактарызаваў грамадзянскую супольнасць як «*пустую і шкодную канструкцыю*» (Rachtan, 2006). Аднак, як вядома, актыўнае і арганізаванае грамадства, сапраўдная грамадзянская супольнасць – гэта натуральная і практычна непераадольная перашкода для бескантрольнага пашырэння радыкальных поглядаў, у тым ліку нацыяналістычнага кшталту.

Паказальна, што адным з першых крокаў міністра адукацыі Романа Гертыха (Ліга польскіх сем'яў),[9] чальца кіроўнай тады кааліцыі (травень 2006 – жнівень 2007), была заява пра выключэнне са школьных праграмаў такога прадмету, як «Грамадазнаўства». Акрамя гэтага, кіраўніцтва краіны, дзякуючы новай знешнепалітычнай стратэгіі, амаль здолела знішчыць той пазітыўны вобраз Польшчы, які будаваўся доўгі час. На думку некаторых польскіх экспертаў, асноўнаю задачаю кіроўнай кааліцыі партыяў PiS («Права і Справядлівасць»), LPR (Ліга польскіх сем'яў) і «Samoobrona RP» («Самаабарона») сталася «*разбурэнне Еўрасаюзу знутры*» (Szostkiewicz, 2009; Rachtan, 2006). У якасці прыкладу прыводзіцца факт непрымання польскімі ўладамі Еўрапейскай канстытуцыі з прычыны адсутнасці ў ёй спасылак на хрысціянскія каштоўнасці (як каштоўнасці рэлігійныя), а таксама

---

9 Ліга польскіх сем'яў (Liga Polskich Rodzin, LPR, гл.: Serwis internetowy Ligi…) – польская правая палітычная партыя, заснаваная 21 красавіка 2001 года. Выступае з кансерватыўных пазіцыяў, робячы акцэнт на каталіцкай традыцыі; з гэтай прычыны актыўна супрацьстаіць розным патрабаванням, якія агучваюцца пераважна левымі партыямі: легалізацыі эўтаназіі, рэгістрацыі гомасексуальных адносінаў, легалізацыі «лёгкіх наркотыкаў», падзелу дзяржавы і царквы.

недастаткова прапісаныя гарантыі палітычнай вагі Польшчы як адной з буйных краінаў еўрапейскай супольнасці.

Новаю парадыгмаю польскага замежнага курсу, на меркаванне кіраўніцтва краіны, мусіла зрабіцца «нацыянальная палітыка», заснаваная на стандартах XXI стагоддзя. Аднак такая стратэгія пагражала ў перспектыве міжнароднаю ізаляцыяй Польшчы або прынамсі астракізмам з боку еўрапейскіх партнёраў. Як адзначаў прафесар галандскага Каталіцкага ўніверсітэта Пітэр Рытбэрген, «*мы павінны сцерагчыся прыхільнасці да нацыі-дзяржавы – штучна створанай традыцыі, якая зусім не мае шматвяковай гісторыі...*» (Rietbergen, 2001). Сапраўды, еўрапейская гісторыя XIX і XX стагоддзяў прымушае нас з падазрэннем глядзець на з'яву пад назваю «нацыя-дзяржава». Аднак кіраўнікі правага праекта Чацвёртай Рэчы Паспалітай паставіліся да гэтай традыцыі досыць некрытычна.

Польшча аказалася ў складанай сітуацыі. У краіне актыўна развівалася так званая гістарычная палітыка[10] (Траба, 2009; Gazeta Wyborcza, 2006), якая «*паслядоўна разбурае прастору для грамадскай дыскусіі ўнутры краіны і ў адносінах з суседзямі*» (Миллер, 2009:6). Гэта магло б пагражаць марнаваннем беспрэцэдэнтных гістарычных магчымасцяў для хуткай мадэрнізацыі ды якаснага цывілізацыйнага ўздыму Польшчы. Але варта заўважыць, што клерыкальна-нацыяналістычныя сілы прыйшлі да ўлады ў той час, калі краіна ўжо ўвайшла ў структуры Еўрапейскага саюзу.

Чым можа быць выкліканая такая палітычная ды ідэалагічная «польская метамарфоза»? Што абумовіла поспех новай – правай – палітычнай міфатворчасці ў Польшчы? У чым сутнасць і прычыны фармавання «гістарычнай палітыкі» як спецыфічнага ідэалагічнага брэнду ў польскім палітычным дыскурсе? Чаму да гэтага часу палова насельніцтва краіны з энтузіязмам падтрымлівае ідэю стварэння нацыянальна-кансерватыўнай каталіцкай IV Рэчы Паспалітай унутры ліберальнай і секулярнай Еўропы?

Вядома, што любая палітычная тэорыя і практыка, у тым ліку польская, абапіраецца на ўласныя інварыянтныя міфалагічныя і рэлігійныя асновы (гл. Mannheim, 1936; Tudor, 1972; Лосев, 1991; Кравченко, 1999; Цуладзе, 2003). Гэта асабліва відавочна і актуальна сёння, у кантэксце той, па сутнасці, негатыўнай тэндэнцыі сучаснасці, калі «*згасае асветніцкі рацыяналізм і аптымізм. Міф – у шматлікіх еўрапейскіх дзяржавах – выяўляе сваю сілу і дамінуе нават у асяроддзі інтэлігенцыі. Трыумф эмацыйных памы-*

[10] Гістарычная палітыка – тэрмін, актыўна ўжываны даследнікамі для апісання палітычных працэсаў і практыкаў посткамуністычных дзяржаваў Усходняй Еўропы; прадугледжвае замацаванне і дамінаванне пэўных інтэрпрэтацыяў гістарычных падзеяў пры дапамозе адміністрацыйнага і фінансавага рэсурсу дзяржавы.

*лак над розумам можна прызнаць сімптомам крызісу заходняй цывілізацыі...*» (Opara, 2009: 73). Іншымі словамі, хоць міф выступае найважнейшым феноменам культуры, у тым ліку і палітычнай, а таксама адною з ключавых катэгорыяў гуманістыкі, рост яго значэння ў XXI стагоддзі не можа не турбаваць. Міф сёння, на жаль, не толькі выступае знешнім арнаментам або карысным дадаткам палітыкі, але рэпрэзентуе эмацыйны бок грамадскага жыцця ў дзяржаве. Мэтанакіраваная эксплуатацыя ірацыянальных бакоў чалавечай натуры і розныя спекуляцыі на гэтай аснове для дасягнення сваіх палітычных задачаў – гэта асноўная прычына сучаснай палітычнай міфатворчасці, што можа ствараць небяспеку для прадуктыўнага сацыяльнага і культурнага развіцця (Filipowicz, 1988).

Можна пералічыць базавыя – або архетыпічныя – палітычныя міфы, якія ў польскай палітыцы актыўна рэанімуюцца і напаўняюцца новымі (як правіла, негатыўнымі) сэнсамі.

Гэта, па-першае, *міф ворага* як нейкага «чужога», адказнага за ўсе нацыянальныя праблемы, правалы і катастрофы. Для стварэння Чацвёртай Рэчы Паспалітай клерыкальна-нацыяналістычная ідэалогія, вядома, мела патрэбу ў такім дзяжурным ворагу. Ён бы выконваў некалькі важных функцыяў: прымаў бы адказнасць за невыкананне або неналежнае выкананне ўсяго абяцанага народу; апраўдваў бы радыкальныя крокі пагрозамі, што зыходзяць ад яго самога; умацоўваў бы нацыянальнае адзінства перад агульнаю небяспекай у сваёй асобе. Такім ворагам для Чацвёртай Рэчы Паспалітай выступіла пэўная міфічная сістэма – спадчынніца ПНР, якая не прапусціла б ніводнай магчымасці нашкодзіць свабоднай Польшчы (Marciniak, 2006).

Па-другое, гэта *міф апекі над нацыяй з боку найвышэйшых сілаў*. У гэтым сэнсе польскія палітыкі бяруць на ўзбраенне не толькі традыцыйную веру палякаў у рыцарства з Гораў Свентакшыскіх – «воінства святой Ядвігі»,[11] – але і надзеі народу на нябеснае заступніцтва з боку памерлага Яна Паўла II як папы-паляка. Гіпертрафаванае рэлігійнае пачуццё правых лідараў абумовіла тую акалічнасць, што замест ідэалаў грамадзянскай супольнасці і правоў чалавека польская дзяржава змясціла акцэнт на канцэпцыі «натуральнага права» ды ідэі атаясамлівання Касцёлу як суполкі вернікаў з дзяржавай як супольнасцю грамадзянаў. З пункту гледжання свецкай дзяржавы, людзі з рэлігійнымі патрэбамі могуць бесперашкодна рэалізоўваць іх у царкве, дзяржава ж разглядаецца як супольнасць людзей розных светапоглядаў. І задача дзяржавы – не ўмешвацца ў гэтыя перакананні і

[11] Згодна з легендаю, польскія воіны, якія загінулі ў няроўных баях з туркамі, ажылі дзякуючы малітвам каралевы Ядвігі і моцна заснулі ў патаемным месцы Свентакшыскіх гораў (горны масіў, размешчаны ў паўднёва-ўсходняй Польшчы) да моманту, калі зноў спатрэбіцца іхная адвага ў барацьбе за Касцёл і каталіцкую веру (гл. Wallis, 1922).

тым больш не навязваць гвалтоўна якія-небудзь з іх як абавязковыя або нават пажаданыя. Аднак у Польшчы Каталіцкі Касцёл – са спасылкаю на традыцыі – быў прадстаўлены як найважнейшая і выключная апора нацыі ды гарант грамадскай маралі. Надзвычай актуальна зноў загучала вядомая польская прыказка: «*Усё роўна, будзе Польшча багатаю ці беднаю, – важна, каб была каталіцкаю*».

Па-трэцяе, *міф новай дзяржавы і новага чалавека*, які акурат і адлюстроўваецца ў палітычным праекце Чацвёртай Рэчы Паспалітай, абсалютна свабоднай ад камуністычнага мінулага. Менавіта актывізацыя гэтага палітычнага міфу стварыла ўмовы і магчымасці для сумнеўных ідэяў (масавай люстрацыі, татальнай дэкамунізацыі) і з'яваў (паказальныя арышты і судовыя працэсы, кадравыя чысткі, дыскрэдытацыя палітычных праціўнікаў) у сучасным польскім грамадстве (гл., напрыклад: Wildstein, 2005; Rogaliński, 2011).

Па-чацвёртае, вельмі адчувальным для польскай ментальнасці і ўладаў падаецца *міф ахвяры*, пра што ніжэй мы скажам больш падрабязна. Пакуль заўважым толькі, што, як пішуць шматлікія даследнікі (асабліва Łojek, 1986; Bocheński, 1996; Opara, 2009: 86–88; Ciechanowski, 2009), статус ахвяры і нават статус сваякоў ахвяры ў польскім грамадстве ёсць падставаю для адмысловага гонару.

Але нацыянальныя лідары чэрпалі і чэрпаюць натхненне не толькі ў хрысціянстве і агульначалавечых архетыпічных міфах. Шмат «дзіўных» рысаў польскага нацыянальна-кансерватыўнага палітычнага дыскурсу, імаверна, маюць свае карані ў невідавочнай, неўсвядомленай славянскай традыцыі. Гаворка ідзе пра дахрысціянскую, паганскую перадгісторыю польскага народу, з якой сучасныя прадстаўнікі ўлады ахвотна пазычаюць некаторыя ідэі і прынцыпы, тым самым праяўляючы салідарнасць з глыбіннаю «польскасцю». Пры гэтым таксама ставіцца мэта падтрымліваць і ўмацоўваць нацыянальныя традыцыі, абгрунтоўваць нацыянальную ўнікальнасць і абранасць, увасобленыя ў «народных» і глыбока веруючых прадстаўніках улады. Хоць на гэтым шляху, як вядома, палітыкаў могуць падпільноўваць непрыемныя нечаканасці і канфузныя сітуацыі. Спынімся на шэрагу момантаў, якія датычаць «паганскага мінулага» ў палітычным сучасным польскай дзяржавы.

Вялікі скепсіс выклікае ў польскіх і замежных даследнікаў адзін з найважнейшых прынцыпаў «таямнічай святасці», які да нядаўняга часу актыўна прапагандаваўся з польскіх палітычных трыбунаў, – прынцып *liberum veto*.[12] Згодна з ім, у дахрысціянскую эпоху прыярытэтным было так званае індывідуальнае вета, якое мог накласці на агульнае рашэнне кожны з удзельнікаў старажытнага веча. Прычыну рэанімацыі гэтага архаічнага прынцыпу, мабыць, можна бачыць ва ўтапічных летуценнях сучасных палітыкаў пра нейкае «парламенцкае аднадумства». Аднак рэаліі ды практыка сучаснага парламентарызму не сумяшчальныя з такою

традыцыяй, якая паралізуе ды разбурае канструктыўны працэс абмеркавання і прыняцця агульназначных для грамадства рашэнняў пры адзіна магчымай умове – плюралізме меркаванняў і пазіцыяў.

Другім «прарывам паганства» ў сучаснае грамадскае і палітычнае жыццё можна назваць характэрны для Польшчы *культ святых гораў*, які таксама ахвотна падтрымліваецца і выкарыстоўваецца палітыкамі (перыядычныя афіцыйныя паломніцтвы прадстаўнікоў палітычных партыяў, напрыклад, партыі «Салідарнасць» у 1999 годзе). У перыяд хрысціянізацыі польскіх зямель паганская сакралізацыя гораў была асуджаная і «згорнутая». Гэтак, напрыклад, магутны паганскі культавы цэнтр на «славянскім Алімпе» — Лысай Гары (Łysa Góra)[13] — атрымалася хрысціянізаваць толькі ў XII стагоддзі, пабудаваўшы там касцёл і назваўшы гару Святым Крыжам. Хрысціянізацыя іншага сакральнага месца — Яснай Гары (Jasna Góra)[14] — ажыццяўлялася не толькі праз узвядзенне там каталіцкага кляштару, але і праз распаўсюджванне культу Чорнай Мадонны, альтэрнатыўнага паганскім вераванням. Пасля 1989 года культ святых гораў пачаў актыўна выкарыстоўвацца ў палітычнай прапагандзе, прычым як левымі, так і правымі партыямі.

Не менш выразнаю праявай ідэалізацыі мінулага выступае мартыралагічны культ, або культ мёртвых. Як адзначаюць аналітыкі, пачынаючы з 1989 года «ўсходні вектар» знешняй палітыкі дзяржавы будаваўся не ў апошнюю чаргу на «могілкавай праблематыцы» (Opara, 2009: 149). У яе рамках прыярытэтнымі пытаннямі, напрыклад, польска-расейскіх, польска-літоўскіх або польска-ўкраінскіх адносінаў выступалі не эканамічныя, энергетычныя або гандлёвыя дамовы, але праблемы масавых рэпрэсіяў у дачыненні да палякаў на тэрыторыі былога СССР або стану польскіх могілак. Асуджаны ў тэкстах Бібліі ды ў практыцы Каталіцкага Касцёлу культ мёртвых, тым не менш, актыўна эксплуатуецца ў польскай палітыцы, што, на думку даследнікаў (Opara, 2009: 150–151), мае – магчыма, не да канца ўсвядомленую – мэту актывізаваць старажытныя традыцыі ды абудзіць на гэтай аснове эмацыйныя і міфалагічныя перажыванні, павысіць значэнне ірацыянальнага ў калектыўнай псіхалогіі.

---

12 «Вольнае слова» (па-лацінску *liberum veto*) – прынцып парламенцкай будовы ў Рэчы Паспалітай, які дазваляў любому дэпутату Сойму спыніць абмеркаванне пытання і працу Сойму наогул, выступіўшы супраць. Ён паўстаў з прынцыпу *аднагалоснасці*, а той, у сваю чаргу, – з супольнага характару Рэчы Паспалітай, якая была федэрацыяй зямель. Кожны з дэпутатаў Сойму быў абраны ў мясцовым сойміку і рэпрэзэнтаваў адну выбарчую акругу. Такім чынам, дэпутат Сойму браў на сябе адказнасць перад соймікам за ўсе рашэнні, якія прымаліся ў Сойме (Wojdyło, 2005).

13 Пік у Свентакшыскім горным масіве, у паўднёва-ўсходняй Польшчы.

14 Гара ў Чэнстахове з аднайменным кляштарным комплексам.

Акрамя спецыфічных ментальных установак, якія змястоўна ўплываюць на палітычную ды ідэалагічную семантыку польскай дзяржавы, варта таксама сказаць і пра гістарычны досвед XIX і XX стагоддзяў. Аналізуючы сучаснае польскае палітычнае мысленне і практыку, трэба адзначыць, што яны абумоўленыя і «абцяжараныя» двуадзінствам працяглага посткаланіяльнага і посткамуністычнага досведу. Посткаланіяльная спадчына Польшчы пакінула ў яе гістарычнай памяці і нацыянальнай ментальнасці пэўныя сляды ў выглядзе своеасаблівага *культу ірацыяналізму*, прычым не толькі праз цудоўную традыцыю рамантызму, але і праз шматлікія комплексы і траўматычныя перажыванні калектыўнага характару (Janion, 2006: 16–18). У сваю чаргу, радыкальнае пераасэнсаванне сутнасці і спадчыны Польскай Народнай Рэспублікі (ПНР) як камуністычнага эксперыменту спарадзіла і замацавала ў польскім грамадстве *ідэалогію анігіляцыі*. Абодва гэтыя «прадукты», на жаль, зусім не спрыялі сапраўднай рэалізацыі заяўленага нядаўна палітычнага праекта — пабудовы новай дэмакратычнай і незалежнай Чацвёртай Рэчы Паспалітай.

Культурна-палітычную гісторыю Польшчы сапраўды карэктна разглядаць у катэгорыях посткаланіялізму (Borkowska, 2007; Najder, 2005; Skórczewski, 2007), бо тут відавочныя адпаведныя прычыны і вынікі: палітычныя падзелы ды страта нацыянальнай незалежнасці і дзяржаўнасці, шматвяковая няволя, прыніжэнне і бяспраўе, культурны пераслед, траўматычнасць нацыянальнай псіхалогіі, дзіўная павага да няўдалых ваенных акцыяў і герояў-няўдачнікаў, спецыфічная *паўстанцкая міфалогія* і, нарэшце, спецыфічны *культ паразы*.

Ля вытокаў культу паразы стаялі, на думку даследнікаў, ключавыя ваенна-палітычныя паўстанні палякаў, на якіх грунтуецца гісторыя нацыянальнага вызвалення і барацьбы за незалежнасць, – напрыклад, паўстанне Касцюшкі або Варшаўскае паўстанне 1944 года (Łubieński, 1978; Ciechanowski, 2009). На жаль, усе яны былі асуджаныя на няўдачу з самага пачатку. Паўстанні заканчваліся паразаю, прычым паразаю свядомай і непазбежнаю з прычыны квінтэсенцыі ірацыяналізму ды наіўнасці іх натхняльнікаў і арганізатараў. На жаль, сумны гістарычны вопыт залішняй эмацыйнасці і палітычнай безадказнасці, досвед шматлікіх неапраўданых і бессэнсоўных ахвяраў да гэтага часу належным чынам не асэнсаваны ў сучаснай польскай палітыцы. Больш за тое, на думку шэрагу экспертаў, выхаванне і палітычная адукацыя сённяшняй польскай моладзі абапіраецца на міфалагізацыю ды спрошчаныя трактоўкі прычынаў і наступстваў вызваленчых паўстанняў, гэта значыць на спецыфічную паўстанцкую міфалогію ды «эфектныя групавыя суіцыдальныя спробы», а таму ў цэлым – на ідэалагічна ірацыянальны падмурак (Opara, 2009: 129).

Такую гістарычна абумоўленую траўматычнасць нацыянальнай псіхалогіі толькі ўскладняе адзначаная вышэй ідэалогія нянавісці ды анігіля-

цыі ПНР, або поўнае адмаўленне ўсяго, што звязана з сацыялістычным перыядам у польскай гісторыі. Своеасаблівы «посткамуністычны траўматычны шок», востра перажываны найперш правымі палітычнымі сіламі сучаснай Польшчы, перадвызначыў скіраваны ў мінулае вектар сацыяльнага і палітычнага развіцця: «*Усё паказвае на тое, што замест стварэння сучаснай дзяржавы ў нас старанна ажыццяўляецца спроба вяртання да мінулага ... сэнсам польскай трансфармацыі выступае рэстаўрацыя*» (Opara, 2009: 114).

Падводзячы вынікі, варта падкрэсліць, што нацыянальна-палітычны праект Чацвёртай Рэчы Паспалітай у яго «правай версіі» паўстаў не на пустым месцы. Ён зрабіўся магчымым як вельмі чаканая рэакцыя ў адказ на абвостранае перажыванне нацыяй сваёй доўгай драматычнай гісторыі ў сітуацыі з'яўлення магчымасці свабоднага і публічнага абмеркавання не толькі гістарычных узлётаў і дасягненняў, але і нацыянальных паразаў ды трагедыяў. Паралельна рабіліся спробы аднавіць гістарычную справядлівасць і вярнуць страчаныя магчымасці аптымальнага дзяржаўнага будаўніцтва ды маральнага адраджэння. Усё гэта тлумачыць і ўзнікненне адмысловага польскага феномену «гістарычнай палітыкі» з яго відавочна рэтраспектыўнай арыентацыяй на абмеркаванне ў якасці прыярытэтных не надзённых праблемаў, а пытанняў гісторыі.

Такое абмеркаванне, вядома, важнае і неабходнае, але яно не мусіць ператварацца ў самамэту, прадмет спекуляцыяў і галоўны трэнд палітычных элітаў. У адваротным выпадку канструктыўная палітычная дзейнасць непазбежна ператвараецца ў своеасаблівы *палітычны кіч* – кідкі, скандальны, але, па сутнасці, пусты і непрадуктыўны. Здаецца відавочным, што сучаснай палітычнай думцы і практыцы Польшчы патрабуецца даўно наспелая пераарыентацыя на ўзважаны аналіз і крытычную ацэнку сучасных лакальных і глабальных праблемаў.

**Літаратура**


1. Глинкина, С., Луконин, Д. (2002). «Проблемы и перспективы включения стран ЦВЕ в систему европейской экономической интеграции», в *Центральная и Восточная Европа во 2-й половине 20-го века*, т. 3: Трансформации 90-х годов, часть 1. Москва: Наука.
2. Жуковский, Игорь, Балобаев, Владимир (2011). «О некоторых аспектах развития партийной системы Республики Польша», *Институт Балтийского региона. Центр польских исследований*, URL (доступ 02.04.2012) http://www.kantiana.ru/pl/publish/o_nekotoruh_aspektah_razvitiya_partiinoi_sistemu_RP.pdf.
3. Кравченко, И. (1999). «*Политическая мифология*: вечность и современность», *Вопросы философии*, №1. С. 72–80.
4. Лосев, Алексей (1991). *Философия. Мифология. Культура*. М.: Издательство политической литературы.

5. Миллер, А. (2009). «Россия: Власть и история», *Pro et Contra: Историческая политика* № 3–4, URL (доступ 02.04.2012) http://carnegieendowment.org/files/ProEtContra_3.2009_all_screen.pdf.
6. Неменский, О. (2010). «“Антипосткоммунизм” – оранжевая революция по-польски», в *Перспективы. Фонд исторической перспективы* URL (доступ 12.09.2011) http://www.perspektivy.info/oykumena/europe/antipostkommunizm_oranzhevaya_revoliuciya_po_polski.htm.
7. Траба, Р. (2009). «Польские споры об истории в XXI веке», *Pro et Contra: Историческая политика* №3-4, URL (доступ 02.04.2012) http://carnegieendowment.org/files/ProEtContra_3.2009_all_screen.pdf.
8. Цуладзе, Автандил (2003). *Dzieje głupoty w Polsce: pamflety dziejopisarskie*. М.: Эксмо.
9. Analiza zmian w prawie polskim w związku z przystąpieniem Polski do Unii Europejskiej – konsekwencje dla konsumentów i przedsiębiorców (2003). Warszawa: Urząd Komitetu Integracji Europejskiej.
10. Bilans korzyści kosztów przystąpienia Polski do Unii Europejskiej. Prezentacja wyników prac polskich ośrodków badawczych (2003). Warszawa: Urząd Komitetu Integracji Europejskiej.
11. Bocheński, Aleksander (1996). *Dzieje głupoty w Polsce: pamflety dziejopisarskie*. Warszawa: Świat Książki.
12. Borkowska, G. (2007). «Polskie doświadczenie kolonialne». *Teksty drugie*, nr 4.
13. Ciechanowski, Jan M. (2009). *Powstanie Warszawskie*. Warszawa: Wyd. Bellona.
14. Członkowstwo Polski w Unii Europejskiej – na jakich zasadach (2003). Warszawa: Urząd Komitetu Integracji Europejskiej.
15. Domagała, Arkadiusz (2008). *Integracja Polski z Unią Europejską*. Warszawa: Wydawnictwa Akademickie i Profesjonalne.
16. Filipowicz, Stanisław (1988). *Mit i spektakl władzy*. Warszawa: Państwowe Wydawnictwo Naukowe.
17. Fundacja CBOS (Centrum Badania Opinii Społecznej) (2006). *Stan społeczeństwa obywatelskiego w latach 1998–2006*. URL (доступ 02.04.2012) http://www.cbos.pl/SPISKOM.POL/2006/K_019_06.PDF.
18. Gazeta Wyborcza (2006). «Kicz patriotyczny». 1.0.2006 URL (доступ 02.04.2012) http://wyborcza.pl/1,75478,3102093.html.
19. GUS – Główny Urząd Statystyczny (2012). *Stopa bezrobocia w latach 1990–2012 (bezrobocie rejestrowane),* URL (доступ 02.04.2012) http://www.stat.gov.pl/gus/5840_677_PLK_HTML.htm.
20. Janion, Maria (2006). *Niesamowita słowiańszczyzna. Fantazmaty literatury*. Kraków: Wydawnictwo Literackie.
21. Kaczmarek, Julian (2001). *Unia Europejska. Rozwój i zagrożenia*. Wrocław: Atlas 2.
22. Kawecka, Elżbieta (red., 2004). *Polska w Unii Europejskiej*. T. 2. Warszawa: Instytut Koniunktur i Cen Handlu Zagranicznego.
23. Lipiński, Jan, Słowiński, Andrzej (red.) (2003). *Gospodarka Polski przed wejściem do Unii Europejskiej*. Warszawa: Polskie Wydaw. Ekonomiczne.
24. Łojek, Jerzy (1986). *Szanse powstania listopadowego. Rozważania historyczne*. Warszawa: Instytut Wydawniczy PAX.
25. Łubieński, Tomasz (1978). *Bić się czy nie bić? O polskich powstaniach*. Kraków: Wydawnictwo Literackie.
26. Mannheim, Karl (1936). *Enlarged and Trans, as Ideology and Utopia: An Introduction to the Sociology of Wirth*, London: Routledge&Kegan Paul; New York: Harcourt, Brace & World.
27. Marciniak, Waldemar (2006). «IV RP, czyli Polska na rozdrożu», *Ośrodek Racjonalisty-*

*czno-Sceptyczny im. de Voltaire'a* «RACJONALISTA» URL (доступ 02.04.2012) http://www.racjonalista.pl/kk.php/s,4949.
28. Najder, Zdzisław (2005). «Czy Polscy są 'postkolonialni'?», *Europa. Tygodnik Idei*, nr 65.
29. Opara, Stefan (2009). *Tyrania złudzeń. Studia z filozofii polityki*. Warszawa: Warszawskie Wydawnictwo Literackie MUZA SA.
30. Orłowski, Witold (2003). *Makroekonomiczne efekty członkostwa Polski w Unii Europejskiej*. Warszawa: Urząd Komitetu Integracji Europejskiej.
31. Polska a Unia Europejska (2003). Warszawa.
32. Polska w Unii Europejskiej. Nasze warunki członkostwa (2003). Warszawa.
33. Prawo i Sprawiedliwość. Serwis internetowy (2005-2012). URL (доступ 02.04.2012) http://www.pis.org.pl/main.php.
34. Rachtan, Piotr (2006). «Jarosław Kaczyński, którego sobie wybierzemy», *Newsweek.pl*, URL (доступ 02.04.2012) http://www.redakcja.newsweek.pl/Tekst/Polityka-Polska/536596,Jaroslaw-kaczynski-ktorego-sobie-wybierzemy.html.
35. Raport na temat rezultatów negocjacji członkostwa Rzeczypospolitej Polskiej w Unii Europejskiej (2002). Warszawa.
36. Rietbergen, Peter (2001). *Europa. Dzieje kultury*. Warszawa: KiW.
37. Rogaliński, Paweł (2011). «Lustracja, czyli polowanie na czarownice w XXI wieku». URL (доступ 02.04.2012) http://www.rogalinski.com.pl/polska/lustracja-czyli-polowanie-na-czarownice-w-xxi-wieku/.
38. Serwis internetowy Ligi Polskich Rodzin. URL (доступ 02.04.2012) http://lpr.pl/.
39. Skórczewski, Dariusz (2007). «Dlaczego Polska powinna upomnieć się o swoją postkolonialność?». *Znak*, nr 628.
40. Stenner, Karen (2005). *The Authoritarian Dynamic*. New York: Cambridge University Press.
41. Szostkiewicz, Adam (2009). «Polska polityka zagraniczna według PiS», *Polityka.pl*, URL (доступ 11.06.2009) http://www.polityka.pl/kraj/opinie/1501061,1,polska-polityka-zagraniczna-wedlug-pis.read.
42. Tudor, Henry (1972). *Political Myth*. London: Macmillan.
43. Zafirovski, Milan (2008). *Modern Free Society and Its Nemesis: Democracy, economy, and conservatism*. Lexington, MA: Lexington Books.
44. Wallis, Łukasz (1922). *Wojsko św. Jadwigi czyli legendy o wojsku św. Jadwigi w Sroczej Górze za Rozbarkiem pod Bytomiem. Z opowiadań ludowych zebrał Jacek z Wygiełzowa*. Bytom.
45. Wildstein, Bronisław (2005). *Długi cień PRL-u czyli dekomunizacja i rzeczywistość*. Warszawa, Wydawnictwo ARCANA.
46. Wojdyło, G., Radomski, W., red. (2005). *Antologia polskiej myśli politycznej okresu przedrozbiorowego*. Toruń: Wydawnictwo Uniwersytetu Mikołaja Kopernika.